

Без слоў.




# П'ЯНІЦЫ

Абы толькі грошы мел.
П'юць і ў будні і ў нядзелі.
Толькі за мінулу ночку
Высмакталі піва бочку.
Ноччу дзесь прапаў Мікіта,
Наваніты цягне Дзмітра,
Звер зьвяром — ідзе Фядось,
(У хаце ўжо ж ён зганіць злосць)
Дзеці бацькі добра знаюць,
Як дым, ад яго ўцякаюць
Да суседа, дзядзькі Грышы,
Пахаваліся, як мышы.
Бледны твар, чырвоны вушы
Хоча выпіць шчэ Андруша;
А таксама чорны Марка
Надта хоча выпіць чарку.
А тут вёску страсяні,
Піць не знойдзеш ані-ні.
Марка кажа: — Андрэй, браце,
Тут няма чаго чакаці,
Ты пастой, а я пайду
Матацыкла завяду.
У горад як нябач, запрэм,
Вось дзе, братка, мы пап'ем!
У горад пруць, аж вецер свішча.
За плячамі пыль-пылішча.
— Дадай газу! На ўвесь ход!...
А ўперадзе — самаход.
Даганілі, абмінулі
І... у зад балона сардзнулі.
Грохат, трэск і крык шалёны.
Енчаць людзі, квічаць коні.
Сталася. Ратунак ..а ніц.
Горка доля горкіх п'яніц.
Зламаў Марка рэбры, ногу,
Кроў ліецца на дарогу.
Матацыкл зусім разбіўся,
А Андрэй на смерць забіўся.
Жонка засталась удавою,
Сын маленькі — сіратою.
П'янства — пляга ў нас публічна,
Шкоднасць п'янства безгранічна
Што тут многа гаварыць:
— Людзі! Перастаньце піць!

Міхась Красоўскі
Малынка



ЗНАЎЦА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

— Я дасканала ведаю, што бульбу парацъ, бульбу вараць...

## ДОБРЫ САБАКА

Аднойчы Рыгор хваліўся Мішку, што ў яго вельмі добры сабака.

— Чаму? — спытаў той.

— Бо ён брэша толькі на злодзея.

Праз нейкі час Рыгор прадаў сабаку, а Мішка пытае:

— Чаму?

— Пачаў брахаць на мяне, гіцаль, — адказаў Рыгор.

Васіль Якімюк
Кожына

# Гумар-сатыра

## АМАТАРКА ПАВАЖНАЙ МУЗЫКІ

Сямідзесяцігадовая бабулька безупынку падае заяўкі ў радыё на сімфоніі і оперную музыку. Зацікавіла гэта працаўнікоў радыё. Яны аднойчы наведалі бабульку.

— Скажыце, калі ласка, — пытаюць яны, — даўно вы пачалі цікавіцца опернай музыкай?

— На сухі лес такая музыка, — кажа бабулька.

— Але ж мы пастаянна атрымоўваем вашы заяўкі.

— Бачыце, я, старая, люблю цішыню. А як вы зайграеце гэтыя свае «бэмолі» ды «авантуры», дык нявестка адразу выключае радыёпрыёмнік.

Аляксандр Ясюковіч
Гарадок

## НЕ СВАРЛІВАЯ

Маці паслала нявестку па ваду. Пасля двух гадзін тая вярнулася ды кажа:

— Ой, якія ў вас маладзіцы сварлівыя. Як прыйшла да калодзежа, дык людзь дзесяцёх перагаварыла.

Ніна Янюк
Барысаўка




## НЕ ВЕДАЎ

Суддзя пытае абвінавачанага:

— Навошта вы ўкралі суседаву карову?

Абвінавачаны:

— Я карову не краў, толькі вяроўку. Я не ведаў, што да гэтай вяроўкі прывязана карова.

Рэня Буйко
Гарбары

## ЦІ ХУТКА

У Гайнаўцы аднойчы да аўтобуса ПКС падыйшла жанчына ды пытае ў шафёра:

— Ці хутка пойдзе аўтобус у Нараўку?

— Як будзе добрая дарога, то пойдзе хутка, а як кепская, дык памалу, — адказаў шафёр.

Коля Раманчук
Альхоўка

# СЕЛЬГАСЛАБАРАТОРЫЯ

— Як думаеце, вясковыя грамадзяне, навошта ўрад арганізуе тысячу агранамічных пунктаў? — пры гэтым пытанні Кастусь пагледзеў на прысутных прыжмурыўшы вока, быццам прыцэльваючыся ўцягнуць некага ў дыскусію.

— Аж тысячу пунктаў?! Навошта ў нашай вёсцы столькі? — усхвалявалася цётка Ганула.

Тысячу аграпунктаў будзе ва ўсёй краіне, а ў нашай маленькай вёсачцы нічога не прадбачваецца, — адказаў Кастусь. — Будучыня наша ляжыць у сельгасгаспадарцы. Аграпункты дапамогуць нам павялічыць цэнтнеры з гектара, дапамогуць развіваць жывёлагадоўлю і курагадоўлю. Вось тады ўжо будзем мы эканамічна незалежнай вёскай, — павучальна гаварыў Кастусь. — Аднак карысней усяго будзе нам арганізаваць вясковую сельгаслабараторыю. У ёй кожнае зернетка праверым перад пасевам, узгодзім колькасць і сорт угнаення для кожнага гаспадара і ўсякае іншае.

— А кукурузу малоць у гэтай лабараторыі можна? — спытала Зінка.

— Языком малоць усё можна — адцяўся Кастусь — Лабараторыя не млын, а толькі пункт навуковы. Дык вось, на загадчыка лабараторыі прапаную дзеда Максіма. Ён жа ў хіміі разбіраецца, як баба ў агародзе.

Прысутныя, мабыць баючыся сутыкацца з таямнічай хіміяй, ахвотна пайшлі на прапанову Кастуся.

Дзед Максім, не засыпаючы грушак у попел, узяўся за справу. Прывёз з горада розны хімічны ўсячыны. Пасля выпрасіў у млынара здохлага парсюка і незадоўга аб'явіў, што прымае здохлых свіней па 100 злотых за штуку.

Незадоўга дзеда Максіма пачалі наведваць жанчыны. Вартаючыся ад яго, кожная нешта пад фартушком выносіла.

Па вёсцы грымнуў слух, што дзед Максім робіць хімічныя грошы. Жыў жа дагэтуль чалавек бедна, ледзь канец з канцом звязваў. А сёння, не глядзячы на свае гады, козырам па вёсцы ходзіць, навенькімі хромавымі ботамі парыпвае ды яшчэ купныя папяросы курыць.

Як не стараліся члены грамадскай рады справу высвятліць, дзед іх заўсёды хіміяй адурманьваў ды сенам выкручваўся.

Праўду кажуць, што дзе чорт днём ногі паломіць, там баба ноччу пехатой пяройдзе. Вясковы гурток Лігі жанчын выслядзіў, што дзед у лабараторыі мылаварнымі справамі займаецца. Калі дзеда прыпералі да сценкі, ён нават пакрыўдзіўся.

— Я, маўляў, барацьбіт на сельскагаспадарчым, хімічным і культурным франтах, а вы мяне не разумееце.

Дзед Максім нават дадзеныя галоўнага статыстычнага ўпраўлення зачытаў, што ў нашай краіне на душу насельніцтва прыпадае ўсяго толькі 200 грамаў мыла ў год.

— У нашым вясковым маштабе, — кажа дзед, — я выпусціў па 20 кілаграмаў мыла на душу насельніцтва.

Як вядома, расход мыла сведчыць аб культурным узроўні людзей. Дзед Максім аднаасобна паставіў нашу вёску на першым месцы ў краіне. У нейкай там Афрыцы людзі мыюцца зусім без мыла. Таму і ходзяць чорныя, як сажа. Паслаць бы туды дзеда Максіма, дык яго на руках насілі б, а ў нас зусім яго не зразумелі.

Таму зараз на лабараторыі велізарны замок вісіць, а дзед Максім піша ўсялякія вытлумачэнні ў адрас фінансавага аддзела.

Дзядзька Левань



Бяздротавы тэлефон, або жывая газета.

